Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

4 - 10 красавіка 1997 года

# Рэгіянальная газета




7 КРАСАВІКА!

№14 (102)

ЦАНА 2000 РУБ.

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Ну і жартачкі!

### Прадоўжылі канікулы

#### 1 красавіка міну ў СШ №1 Вілейкі так і не знайшлі

*ВІЛЕЙКА. У 10.55 першага дня новай чвэрці дырэктару сярэдняй школы №1 патэлефанаваў невядомы. Басавітым голасам паведаміў, што школа замініраваная. Ніякіх патрабаванняў не выстаўляў.*

Вопытны настаўнік зразумеў, што з ім размаўляе падлетак— прыкладна васьмікласнік. Педагогі звязаліся з міліцыяй. На календары— 1 красавіка, школа не з'яўляецца стратэгічным аб'ектам. Улічваючы ўсё гэта, вырашылі не панікаваць. Першай змене далі давучыцца, а другую адпусцілі дадому.

Пасля абеду супрацоўнікі міліцыі абышлі ўвесь будынак і, як і меркавалі, нічога не знайшлі.

*Аддзел інфармацыі.*

### Камунальнікі— людзі сур'ёзныя. Нават 1 красавіка

*АСТРАВЕЦ. Большасць жыхароў вуліцы Валадарскага, адкрыўшы ў сваіх кватэрах а 12 гадзіне 1 красавіка кранікі, каб набраць вады для гарбаты ці кавы, свайго не дабілася. Паўтарылася падобнае і праз дзве-тры гадзіны— вады не было.*

Бліжэй да вечара па тлумачэнні звярнуўся да інжынера жыллёва-камунальнай гаспадаркі Яўгена Кулецкага:

— Што за першакрасавіцкія жарты?

— Не жарты, а аварыя,— адказаў той.— У падвале дома №19 лопнулі трубы, якія патрабавалі замены. На месца здарэння выязджала аварыйная брыгада, адключылі ўсю сістэму водазабеспячэння. Таксама была адключана і кацельня, каб зняць ціск. У 16 гадзін усе работы па ліквідацыі аварыі былі завершаныя.

Упэўніўся ў гэтым і я, бавячы час за кубкам кавы.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Адным абзацам

**П**асля паўтарамесячных узгадненняў павышаны тарыфы на праезд у цягніках прыгарадных напрамкаў. Цяпер за адну зону прыйдзецца плаціць 1600 рублёў.

**Р**ашэнне Канстытуцыйнага суда аб адмене забароны на продаж у сталіцы жылля грамадзянам Рэспублікі Беларусь, што не маюць мінскай прапіскі, выкліча некаторае ажыўленне на кватэрным рынку сталіцы і, магчыма, нязначны (не больш за 5%) рост цэнаў на кватэры.

**2** красавіка ў Крамлі прэзідэнтамі Беларусі і Расіі быў падпісаны дагавор аб Саюзе краін. Пасля адбыўшайся раней размовы кіраўнікоў дзвюх дзяржаў сам-насам, Барыс Ельцын заявіў, што згодна з артыкулам новага дагавора, саюз адзінай дзяржавы не ўтварае, абодва бакі захоўваюць свой суверэнітэт, у грамадзян абедзвюх дзяржаў з'явяцца дадатковыя правы (свабоднае перамяшчэнне, валоданне маёмасцю і г. д.). Падкрэсліваецца таксама, што бюджэт Саюза будзе прызначаны толькі на фінансаванне сумесных праграм (на сённяшні дзень іх каля 30).

**Г**анаровым госцем Міжнароднага турніру сярод дзяцей-інвалідаў "Пунсовая кветачка", які трэці год запар у дні вясенніх канікулаў праходзіў у Івянецкім дзіцячым доме-інтэрнаце, на працягу трох дзён быў віцэ-прэзідэнт шахматнай федэрацыі Расіі Юрый Авербах. Ён даў сеанс адначасовай гульні на 17 дошках. Вынік ва ўсіх партыях быў на карысць вядомага гросмайстра.

**У** мэтах упарадкавання гандлю алкагольнымі вырабамі на тэрыторыі Маладзечна з 1 красавіка гарвыканком зацвердзіў рэжым, згодна з якім большасць суб'ектаў гаспадарання будзе прадаваць алкаголь з 8 да 23 гадзін. Толькі тром прадпрыемствам дазволены кругласутачны продаж, а аднаму прыватнаму прадпрымальніку— з 19 да 1 гадзіны ночы.

**У** 16 гаспадарках Маладзечаншчыны выяўлена паражоная вірусам лейкозу буйная рагатая жывёла. Усяго— амаль чвэрць ад колькасці грамадскага дойнага статка.

**У** Гальшанскім філіяле нацыянальнага мастацкага музея адкрылася выстава "Беларуская кніжная графіка 30-70 гадоў". Прадстаўлены ў асноўным ілюстрацыі да твораў Коласа. А цяперашні парыжанін Барыс Забораў выставіў 3 работы па Дастаеўскаму і Купалу.

**У** Смаргонскім лясгасе нядаўна закладзены плантацыі амерыкана-канадскіх журавінаў. Плады іх буйнейшыя за нашыя. Журавіны размнажаюцца чаранкамі, а разам з імі работнікі прадаюць парады, як вырошчваць расліны на дачным участку.

**У** мінулую нядзелю насупраць маладзечанскага калгаснага рынку праведзены пікет "Супраць растучай галечы і жабрацтва", наладжаны філіяй Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднання "Ветэран" і падтрыманы мясцовай Радай БНФ.

*Лёс тэлевізара для падпісчыка вырашыцца 7-га красавіка ў 16.00 у сценах рэдакцыі. Усе жадаючыя могуць стаць удзельнікамі тыражу нашай латарэі. Сардэчна запрашаем!*

Наступны нумар— з укладышам для моладзі. Амаль уся 8-я старонка будзе адведзена пад прыватныя аб'явы.

*Выпісвайце і купляйце "РГ"!*



## Вецер у вокнах



*МАЛАДЗЕЧНА. Быццам візітная картка, на ўездзе з Мінска стаіць былы будынак мужчынскага інтэрната ПТВ-21. Як у той казцы— без вокнаў, без дзвярэй. Палохае гасцей сваім знешнім выглядам. Адны жартам называюць будынак помнікам Вялікай Айчыннай, іншыя— Чачнёй. А на самой справе трохпавярхоўка— маёмасць упраўлення адукацыі аблвыканкома (як і іншыя карпусы вучылішча).*

Яшчэ ў 1989 годзе была распрацавана праектна-каштарысная дакументацыя на рэканструкцыю будынка. Вобласць загадала падрыхтаваць аб'ект да будаўнічых работ. Акрамя ўсяго планавалася надбудаваць паверх. Абнадзеіла і... адмовіла ў фінансаванні з-за адсутнасці сродкаў.

Аблвыканком прыняў рашэнне аб перадачы будынка ў арэнду на 7 гадоў мясцовай уладзе, каб тыя на гэтай базе адкрылі пачатковую школу для дзяцей шостага мікрараёна. Але і на гэтую рэканструкцыю грошай няма.

Тым не менш ёсць іншы шлях. Адміністрацыі вучылішча можна дамовіцца з прадпрымальнікамі, каб змяніць праект пад жыллё (маласямейны інтэрнат). Выканаць будаўнічыя работы і частку кватэр аддаць у карыстанне той жа фірме. Але на гэта вобласць не дае дазвол.

Стаіць "Чачня" на ўездзе ў горад і з гадамі ператвараецца ў месца грамадскага карыстання— прыбіральню.

*Аддзел інфармацыі*

## Ліст з Украіны

### Адгукніцеся, Пётр Лях!

***Вялікая Беларусь. Цяжка знайсці патрэбнага чалавека, не ведаючы дакладнага адраса.***

У час Вялікай Айчыннай вайны я, Лаза Міхаіл Феафанавіч, украінец, і мой баявы сябра беларус Пётр Лях 1918-1919 года нараджэння, русы, сярэдняга росту, служылі ў 28-й гвардзейскай стралковай дывізіі, якая ў снежні 1942 годзе на Паўночна-Заходнім фронце займала абарону, а пасля вяла наступленне.

На лініі абароны я з Пятром знаходзіўся побач. Была ў нас дамоўленасць, што ў выпадку цяжкага ранення або гібелі той, хто застанецца жывым, паведаміць бацькам і далі адзін аднаму свае адрасы (у гэты час Украіна і Беларусь былі акупаваныя).

19 або 20 снежня Пётр быў цяжка паранены. Фашыстоўская куля прабіла яму жывот. Яго адразу ж накіравалі ў шпіталь. 23 снежня наша дывізія пайшла ў наступленне. У жорсткім баі мяне цяжка параніла асколкамі снарадаў у руку і нагу.

Калі мяне накіравалі ў шпіталь, я зноўку сустрэўся з Пятром Ляхам, які адчуваў сябе вельмі кепска. Пасля мяне накіравалі ў іншы шпіталь, і так мы больш не сустракаліся. Запісы з адрасамі згубіліся падчас лячэння ў розных шпіталях. Але ўсё ж хочацца ведаць далейшы лёс баявога сябра беларуса Пятра Ляха. Спадзяюся, што калі не ён, то бацькі яго або блізкія адгукнуцца на адрас: ***245947, Украіна, Сумская вобл., Роменскі раён, с. Валашноўка, Лаза Міхаіл Феафанавіч.***



## Навіны

### Ад "Феліцыі" да "Актавіі"

*МАЛАДЗЕЧНА. Наведвальнікі СТА "Пушэ" праз дзень-два могуць не ўбачыць на станцыі шыльду са знаёмай назвай.*

СТА №2 застаецца— але крыху ў новай якасці. На яе базе створана СП "Фелокт-Сервіс". У назве новага беларуска-германскага прадпрыемства выкарыстаны імёны перадапошняй і апошняй мадэляў "Шкоды".

Як сказаў дырэктар СП В. Гапановіч, асноўны ўпор будзе рабіцца на рамонт іншамарак, забеспячэнне іх запчасткамі. Як і раней, тут можна памыць, пафарбаваць аўтамабіль, прапануюцца і іншыя паслугі. Аднак "Жыгулям" ды "Запарожцам", якія не вытрымліваюць канкурэнцыі з заходнімі мадэлямі, на станцыі месца наўрад ці знойдзецца.

*Аддзел інфармацыі.*

### Чарга паменшае

*ВАЛОЖЫН. Вядуцца работы па пашырэнні на 700 нумароў АТС горада. Да гэтага часу ў райцэнтры налічвалася 2300 нумароў.*

Сувязісты запэўніваюць, што льготная чарга будзе ліквідавана ўвогуле. Па агульнай тэлефоны установяць тым гараджанам, якія паспелі стаць на ўлік да сярэдзіны 1989 года.

У другім квартале ў горадзе будзе ўстаноўлена апаратура пачасовага ўліку мясцовых размоў. Так што неўзабаве тэлефонныя зносіны паміж валожынцамі абмяжуюцца, бо найбольш гаваркім за такое задавальненне давядзецца адчувальна плаціць.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

### У Чэхіі ёсць работа

*АСТРАВЕЦ. Знайсці работу жанчыне, нават з дыпломам першакласнага спецыяліста, цяпер даволі складана. Днямі дапамагчы ў працаўладкаванні слабой палавіне ўзяліся спецыялісты раённага цэнтра занятасці.*

Яны праводзяць набор для далейшага накіравання ў Мастоўскі вучэбна-вытворчы камбінат. Там жанчыны змогуць праз паўгода атрымаць спецыяльнасць закройшчыка-краўца. Далей будзе цудоўная магчымасць працаўладкавацца па спецыяльнасці ў шэрагу швейных фірмаў Чэхіі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Спецыялісты ад Бога

*АШМЯНЫ. Людзі вучацца на інжынераў, медыкаў... Стаць настаўнікамі— праўда, крыху незвычайнымі, вырашылі Леакадзія Ціхановіч і Алена Вадэйка з Гродзі і сястра Тэрэза. Яны ўжо трэці (апошні) год вучацца ў Катэхічным інстытуце, які месціцца ў Гродзенскай епархіі.*

Працаваць ім прыйдзецца, як належыць, з дзецьмі, выкладаючы божую навуку, але толькі не ў звычайных школах, а пры касцёлах.

— Спецыялісты,— як жартам зазначыў ксёндз касцёла наведання Найсвяцейшай Дзевы Марыі Бярнард,— атрымаюцца, бо дзеці іх слухаюцца нават лепш чым самога ксяндза. Ды і ўрокі свае старанна робяць.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Перыёдыка для выбраных

*ВАЛОЖЫН. У "застойныя" часы на падпіску найбольш папулярных газет і часопісаў устанаўлівалі ліміты. Цяперашнія цэны прымусілі рабіць выбар, узважваць усе "за" і "супраць". Навучыліся лічыць грошы і кіраўнікі многіх калектываў, афармляючы ведамасную падпіску.*

На Валожыншчыне самая чытаючая публіка працуе ў МПМК-188. Тут на паўгадавую падпіску выдаткавалі больш за 5 мільёнаў рублёў. Будаўнікам можа шчыра пазайздросціць нават раённая бібліятэка.

Дух заняло ад напаўзабытых і нават ніколі не бачаных выданняў: "Комсомольская правда" і "Литературная газета", "Советский спорт" і "Я+Я", "Московский комсомолец" і "Спид-инфо", "Семья" і "Космополитен", "Работница" і "Крестьянка", шмат іншых і, нарэшце,— "Немецкий язык для детей". Вось толькі вельмі сумняваюся, што самі будаўнікі бачаць тую "элітную" перыёдыку.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

